# Дняпроўская СТРОМА




№ 5 ліпень 2012 г.

Выдаецца з мая 2012 г.

ЛІТАРАТУРНА - МАСТАЦКІ І ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
МАГІЛЁЎСКАГА АДДЗЯЛЕННЯ ГРАМАДСКАГА АБ'ЯДНАННЯ «САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ»


## Алег ХАМЕНКА: "Я - дзяжурны па краіне"

20 чэрвеня 2012 г. у магілеўскім грамадскім цэнтры "Кола сяброў" на акустычны сольны выступ збіральніка беларускага фальклора сабралася больш за пяцьдзясят чалавек. Алег Хаменка звяртаючыся да грамады назваў сябе «Дзяжурным па краіне».

*«Я лічу, што адказнасьць за краіну чалавек бярэ, і дзяжурыць па краіне трэба. І трэба гэта рабіць не па загадзе, а ад сэрца. Ад сэрца гаварыць пра тое, што мы думаем, пра што людзі хочуць пачуць. Цяпер мы дужа разгубіліся і не адчуваем гэтага. Забываемся напросту як шчыра размаўляць. Размовы ў інтэрнэце — гэта добра, але гэта крыху іншае. Жывыя размовы чалавеку, якому баліць, у якога праблемы куды лепш. Гэта яму прыемна»,* -- патлумачыў спявак.

Госць чаргаваў песні уласнымі развагамі пра стан мовы, беларускай музыкі, пра ролю інтэрнэта ва ўзаемаадносінах між людзьмі і самі адносіны між людзьмі. Шмат гаварыў пра святы й святкаванні.

*«Я лічу, што вельмі важна размаўляць на беларускай мове. З памылкамі, на трасянцы, ды як заўгодна, але размаўляць».*

*«Самае галоўнае цяпер ведаць, якія святы важныя ды галоўныя і чаму. За кожным святам павінна стаяць не толькі мэтазгоднасьць, але і вялікая легенда свята, якая стварае яго каштоўнасць. Яе нам цяпер дужа не хапае, таму і ёсць адчуванне, што мы не адна нацыя. Мова, святочна абрадавыя дзеі і агульныя каштоўнасці — гэта тое, што акурат і яднае нацыю. І нам, як маладой нацыі, гэтага вельмі не стае. Пра гэта на сёння трэба гаварыць».*



Алег Хаменка

Алег Хаменка адзначыў, што большыня тых песень, якія спявае, сталі хітамі задоўга да таго як ён іх праспяваў — бо ім па некалькі сот гадоў. Яго роля ў тым, каб іх не забілі і каб не згубілі беларусы сувязь з беларускім космасам.

*Паводле www.svaboda.org*



*Міхась Булавацкі лічыць, што не мае дачынення да музыкі, але заўсёды з вялікім задавальненнем слухае мілагучныя беларускія спевы. На сустрэчы з Алегам Хаменкам.* Фота www.222.by

## "ЯНКА КУПАЛА ІДЗЕ"

7 ліпеня 2012 г. споўнілася 130 гадоў з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. З гэтай нагоды на Магілёўшчыне, як і па ўсёй Беларусі, адбыліся традыцыйныя чытанні і літаратурныя сустрэчы.

6 ліпеня ў магілёўскай гарадской бібліятэцы імя К.Маркса адбылася літаратурна-музычная вечарына. Супрацоўнікі бібліятэкі Ірына Цінякова і Святлана Міхальчук з дапамогай аўдыё-відэа прэзэнтацыі вырашылі яшчэ раз пагартаць старонкі біяграфіі вялікага беларускага Песняра, дзе жаўруковым спевам звінела каханне паэта. Наведвальнікі з цікавасцю паслухалі расповеды аб узаемаадносінах Я.Купалы з Паўлінай Мядзёлкай, а таксама сагу аб Уладзіславе Луцэвіч, з якой паэт звязаў сваё сямейнае жыццё.




Артысты народнага тэатра Палаца вобласці пад кіраўніцтвам Алы Куксовай дапамаглі пры-

( Заканчэнне на с.2 )

## Дорогами войны 1812 года



Литературный конкурс *«Далёкому мужеству верность храня»* и викторину *«Дорогами войны 1812 года»* провело Русское культурно-просветительское общество накануне 200-летия Отечественной войны 1812 г.

Конкурсные работы были представлены на суд компетентного жюри, в состав которого вошли филолог и языковед Т.А.Кожурина, литературный критик П.Н.Комков, поэт, член Союза писателей Беларуси А.Н.Казеко, поэт, прозаик, переводчик, член Союза белорусских писателей С.С.Украинка. Возглавил жюри председатель Могилёвского областного отделения Союза белорусских писателей Н.А.Яцков.

В конкурсе, кроме могилевчан приняли участие жители Минска, Гомеля, Бреста, Магнитогорска и Курска.

В номинации *«Малая проза»* в возрастной группе до 14 лет победила минчанка Елизавета Богодяж. В возрастной группе до 18-ти - Илья Лукойц из Могилёва. Среди конкурсантов старше 35-ти победил Яков Солодкин, член Курского союза литераторов.

( Окончание на с.3 )

## ВОЛЬНЫ МІКРАФОН

## Што святкуем?

Адгрымела чарговае свята - *Дзень Незалежнасці*. Кажуць, яно нашае самае галоўнае. Тут і вайсковы парад, і дзяржаўны гімн трэба спяваць у пазначаны час. Трэба радавацца. Трэба святкаваць. Святкаваць... Дарэчы, *"свята"* - ад слоў *"святасць, святы"*. А што такога святога ў нашай гісторыі было менавіта 3 ліпеня? Ды амаль нічога. А наогул - што такое нашы афіцыйныя святы? Адкуль яны? З якой такой святасці ўзніклі? Дзіўна, але пераважная большасць - ад шматлікіх ленінскіх дэкрэтаў аб утварэнні той ці іншай структуры - ці то ВЧК, ці то геадэзія-картаграфія. Праўда, дзень міліцыі ўсёткі перанеслі на сакавік - калі Міхаіл Фрунзэ ў Мінску першы міліцэйскі атрад арганізаваў.

Сакавік... Узгадваем назву месяца -- і ў памяці ўсплывае чамусці не міліцэйскі дзень народзінаў, а лічба *"25"* - Дзень абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Гэтая лічба хвалюе, надае крылы. Ад яе вее непадробленай святасцю. Гэта - Свята. Сапраўднае і высокае. Дзяржаўнае. Самае галоўнае. І як бы ні замоўчвалі - гэта вялікая памяць аб нараджэнні беларускай незалежнай дзяржавы. І хоць у 1918 годзе не атрымалася ўтрымацца на высокай хвалі тагачаснага гістарычнага цунамі, але ж было і 27 ліпеня 1990 года - новы святы дзень для Беларусі. Сапраўднае Свята Незалежнасці. Дзе яно? Чаму не святкуецца?..

Калі ж будзем мець сваё -- сапраўды незалежнае ад той савецкай "дэкрэтнай" інэрцыі?..

Нейкая абыякавасць наўкола: ай, во - музыка грае, народ таўчэцца, эх, весялосць! Святкуем! Што святкуем? Ай, нешта святкуем -- ды якая розніца!..

Абыякавасць... Чамусьці круціцца і круціцца ў галаве вершык Міхася Мірановіча:

*Нас абы хто абы куды вядзе,*
*І абы што мы робім абы як.*
*І вось таму мы зараз абы дзе,*
*І нам адтуль не выбрацца ніяк.*

А ці выбярэмся адтуль - з той абыякавасці? Ці помнім - што было? Ці адчуем сапраўдную ўзнёсласць і святасць нашых святаў? Упэўнены і перакананы: Выбярэмся. Помнім. Адчуем.

Гэта непазбежнасць, якая толькі ўзмацняецца ад колькасці тых перашкод, што няспынна будуюцца на яе шляху. Так і трэба - каб наша будучыня была моцнай і вольнай ад усяго чужога, не нашага. І прышчэпленай ад магчымай дураты, якой заўжды шмат вакол нас.

Будзе Беларусь - Беларуская. З Памяццю. З Мовай. Годная. Працалюбівая. Дабразычлівая.

З еўрапейскай Будучыняй. Са сваімі вялікімі святамі.

І мы павінны рабіць усё, каб так і было. Каб жыла Беларусь!

*Мікола ЯЦКОЎ.*





# "ЯНКА КУПАЛА ІДЗЕ"

( Заканчэнне. Пачатак на с.1 )

сутным адчуць рамантычны подых таго часу. Назар Савіцкі, Аліна Кісялёва і Карына Місяцюк прачыталі ўзнёслыя вершы Я.Купалы аб каханні, а Дар'я Поварава была вельмі пераканальнай ў вобразе Паўліны Мядзёлкі.



Дар'я Поварава, Ірына Цінякова і Святлана Міхальчук

Старшыня Магілёўскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў Мікола Яцкоў у сваім выступленні зрабіў акцэнт на абставінах таго часу, калі каханне паэта трапіла пад чорныя крылы ваеннага ліхалецця, і Купалу прыйшлося займацца пытаннямі новага беларускага войска, якое, на жаль, не ўтварылася, але свой след у гісторыі Беларусі пакінула. У тым ліку і ў выглядзе купалаўскага цыклу вершаў *"На вайсковыя матывы. Песні на ваяцкі лад"*, музыку да якога ў наш час напісаў Мікола Яцкоў. У выкананні Міколы і Алы



Наведвальнікі



Ала і Мікола Яцковы выконваюць песню на верш Я.Купалы

Яцковых прагучалі песні *"Дзе ты, хмелю, зімаваў..."* і *"А ў бары,бары..."* з гэтага песеннага цыклу.

Заключным і вельмі ўрачыстым акордам вечарыны стала выступленне паэта і барда, намесніка старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Эдуарда Акуліна, які звярнуў увагу прысутных на неабсяжнасць Купалавага сусвету, які назаўсёды павінен увайсці ў кожнае беларускае сэрца - каб нам і дыхалася вальней, і жылося лепей. У выкананні Э.Акуліна прагучала некалькі песняў, у тым ліку і легендарная *"Янка Купала"*. І калі ўся зала пачала падпяваць *"Янка Купала ідзе - нас за сабою вядзе"*, адчулася: неўміручае сэрца паэта заўжды з намі. Было, ёсць і будзе.



Спявае Эдуард Акулін

**Сяргей ПІСЬМЕННЫ.**

Фотаздымкі В.Яцковай.

# Гучаў Купала ля Машэкі...



Адвячоркам 7 ліпеня 2012 г. два дзясяткі магілёўцаў сабраліся на Замкавай гары ля памятнага знаку "Машэка", каб адзначыць юбілей Паэта, які расказаў свету кранальную гісторыю гэтага асілка. Гучалі вершы Купалы, урыўкі з яго паэм, вершы іншых паэтаў, яму прысвечаныя. Чыталі Тамара Аўсяннікава, Алег Дзьячкоў, Таццяна Барысік, Алена Асмакоўская, Міхась Булавацкі, Аляксей Карпенка ды іншыя. Гучалі запісы песень на словы Купалы, якім частка прышлага народу ціха падпявала. На заканчэнне Алег Дзьячкоў паведаміў, што назаўтра плануецца для ўсіх, хто пажадае, паездка чыгункай у Ляўкі. Жаданцы знайшліся. Там святкаванне юбілею знайшло свой працяг.

**Міхась ПЯТРОВІЧ.**



Тамара Аўсяннікава



Міхась Булавацкі



Таццяна Барысік



Алег Дзьячкоў

Святкаванне юбілею Янкі Купалы дае магчымасць кожнаму з нас ізноў звярнуцца да жыцця і творчасці нашага любімага Песняра. Чарговы раз міжволі паўстаюць думкі аб тым, як паміж рэаліяў зямнога быцця адбываецца нараджэнне Вялікага Паэта, які простым пытаннем *"А хто там ідзе?"* абвяшчае аб праве на існаванне цэлага народу, а сваёй творчасцю назаўсёды ўпісвае яго ў скрыжалі Сусвету.

Чаму не памірае сярод людзей гэтая прага да вершаскладання? З'яўляецца гэта генетычна закладзенай здольнасцю, нейкай абранасцю, альбо проста вытанчанай гульнёй у словы? Ці ёсць гэта навык і майстэрства, эксплуатуючыя чалавечыя пачуцці, ці боскае "таўро"?..

Да святкавання Дня народзін паэта на Замчышчы ў Магілёве мы зноў сталі лістаць паэтычныя зборнікі, рыхтуючы вершы сугучныя гэтай падзеі, часу, месцу і нашаму густу. Кожны знайшоў сваё -- нехта натхніўся раннія творчасцю, нехта вершамі, прысвечанымі Магілёву, нехта прыгажосцю роднага краю. Прысутнічала Зінаіда Ляўчэня -- спадарыня з камуны, жыццё якой апісана ў паэме "Над ракой Арэсай", і з вялікай удзячнасцю гаварыла пра Купалу. Інтрыгу мерапрыемства якраз і склала пададзеная удзельнікамі рознабаковасць творчасці паэта.



Алена Асмакоўская

Пытанне: *" Як усё пачалося?"* -- узнікла адначасова ва ўсіх прысутных. Захацелася зразумець, дзякуючы якім абставінам, юначыя спробы Янкі Луцэвіча апаэтызаваць навакольны свет, павялі яго няпростымі дарогамі служэння свайму народу? І тут вельмі дарэчы прыдаўся тамок Поўнага збору твораў (т.9, кн.1), які я захапіла з сабой. У ім ёсць аўтабіяграфічныя лісты Янкі Купалы да Л.М.Клейнбарта, біёграфа і даследчыка творчасці паэта. Вытрымку аднаго з іх я зачытала прысутным. Думаю, пазнаёміцца з гэтым лістом будзе цікава ўсім.

**Алена АСМАКОЎСКАЯ.**

Фота Г.Савічавай і Д.Сідарка.

*... В первый или первые годы учился я, должно быть, неважно, потому что отец принужден был пустить в дело уздечку и мне хорошенько досталось. После этого я взялся за учение слишком усердно. Учился сначала по-польски, только впоследствии я от няни научился русскому алфавиту и легко осилил и русскую грамоту.*

*... Читать книги я начал рано. Помню, когда отец отправлял меня с сестрой на ночное пасти лошадей, я брал с собою книги и при свете костра или луны читал. Конечно, не обходилось без того, чтобы я не засыпал, а лошади не попадали в шкоду.*

*... Какой автор тогда произвел на меня большее впечатление – трудно сказать. Но в общем помню хорошо, что книга, где говорилось о тяжкой доле бедного люда, всегда меня захватывала.*

*... Если Вы спросите, какая литература, польская или русская, больше была мне по душе, то я сказал бы что – первая. А это потому, что в польской литературе после упадка Польши больше выражалось стремления к политическому, а иногда и социальному вызволению, нежели, как мне казалось, в русской...*

# Дорогами войны 1812 года

*( Окончание. Начало на с.1 )*

В номинации *«Поэзия»* первые места оставили за собой Юлия Дериболот (Смоленск), Дмитрий Шиленков (Брест) и Борис Воронин (Могилёв).

В викторине приняли участие жители Могилева и Смоленска. Победила россиянка Ольга Сахарова. Серебро - у могилевчанки Ксении Шаминой, третье место поделили смолянка Ксения Должикова и могилевчанин Антон Саракач.

*(По материалам газеты «Веснік Магілёва»)*

# Салтанаўка. 200-годдзе.

11 ліпеня 2012 года недалёка ад Магілёва, на месцы, дзе пабудавана капліца ў гонар герoеў вайны 1812 года, адбылося свята, прысвечанае 200-годдзю вядомай бітвы ля вёскі Салтанаўка. У афіцыйнай частцы прымалі ўдзел кіраўнікі Магілёўскай вобласці, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, у тым ліку і Саюза беларускіх пісьменнікаў.

У рамках літаратурна-музычнай кампазіцыі адбылася прэм'ера новай песні *"Бой под Салтановкой - символ победы"* (словы Алеся Казекі, музыка Міколы Яцкова), якую выканалі артысты ансамбля "Славіца" аддзела культуры Магілёўскага райвыканкама. Таксама адбылося ўзнагароджванне пераможцаў літаратурнага конкурсу паэтаў і празаікаў Беларусі і Расіі *"Далёкому мужеству верность храня"*.

**С. ПІСЬМЕННЫ.**







Узнагарода за перамогу



Мікола Яцкоў і Алесь Казека

Дэпутат парламента Аляксандр Разганаў зaўсёды цікавіцца пытаннямі літаратуры і мастацтва.



*Борис ВОРОНИН*

## ПИСЬМО ИЗ 1812 ГОДА

*23.07.1812 года в бою под Салтановкой командующий 7 корпусом Н.Н.Раевский связал силы маршала Даву, не посмевшему ударить во фланг 2-ой армии.*

"...Пишу тебе, дружище, из Смоленска,
Вот мы и здесь, две армии сошлись.
Прошли под носом у француза с блеском,
В походах вся проходит наша жизнь.

А было туго. В деле под Бобруйском
Почти нагнал на марше нас Жером.
Пошли к Днепру - у Быхова он узкий,
Да нет мостов, а то б все нипочем.

Князь Петр отправил корпус к Могилеву,
Мы были у Салтановки чуть свет,
А там Даву и пушки над горою,
И обойти его дороги нет.

Идти на фланг - глубокое болото,
Через плотину - прямо на картечь,
А время нет, и делать надо что-то,
Игра, как говорится, стоит свеч!

Наш командир, наш генерал Раевский
В обход одну дивизию послал,
А сам бросок на мост задумал дерзкий,
Повел вперед нас под свинцовый шквал.

Картечь и пули, как потоком вешним,
Сметали с ног, на дно лесной реки,
Но роты наши точно в ад кромешный,
Ряды сомкнув, ударили в штыки.

В атаке этой ранен был я тоже,
От шпаги на боку остался след,
По мне с долгом затягивать негоже -
Обидчика отправил на тот свет.

Враг отступил, но сил нам не хватало,
Победой славной завершить бросок
У нас резервов было слишком мало...
Но, главное, мы выиграли срок!

Два дня французы у моста стояли,
Погибших хоронили в том бою,.
Пока мы через Днепр переправляли
Обозы, артиллерию свою!

За Дашковкой соединились снова
Седьмой наш корпус с армией второй,
И мы сейчас по-прежнему готовы
Встречать врагов, вступая с ними в бой!

... Пока не время говорить о встрече,
Когда враги у нас со всех сторон...
Я не забыл Ваш бал, крещенский вечер,
Княжне Полине низкий мой поклон!..."

*Поручик Н.*



# Илья ЛУКОЙЦ

## ГЕРОЯМ ДАЛЁКОЙ ВОЙНЫ
(отрывок)

... Не пали вы под этой мглою,
Не обожглись в огнях войны,
Лишились жизни под Москвою,
Оставшись Родине верны!

Народ героев не забудет.
Награда очень велика:
Живым – все почести при жизни,
А павшим – память на века.



...Занимался рассвет. Тихо струилась вода в ручье, свежестью веяло от него. На травах лежала серебристая роса. Поднимали головки просыпающиеся колокольчики, ромашки, мышиный горошек. Солнечные лучи согревали землю. В русском лагере все разговаривали шепотом: то ли не хотели нарушать эту гармонию, то ли не хотели начинать сражение.

Порывы ветра стали доносить барабанную дробь со стороны неприятеля. Начался жестокий бой. Свистели ядра, дым обволакивал поле сражения. Хрипели кони, и стонали раненые. Но вот по рядам прокатился слух:

– Генерал на поле сражения!

Взоры солдат устремились в сторону приближавшегося к передовой линии Николая Раевского. Рядом с ним были сыновья: 17-летний Александр и 11-летний Николай. Николая генерал вел за руку, а Александр, схватив знамя, лежащее возле убитого подпрапорщика, понес его перед войсками. Даже у бывалых солдат дрожь пробежала по коже. Этот геройский пример воодушевил всех. В едином порыве русские воины бросились на врага. Французы снова не выдержали атаки, побежали...

Подвиг Раевского и его сыновей, вышедших перед строем в решительный момент боя, стал легендарным. А сам генерал – одним из самых любимых героев русского народа.

... Залечила земля свои раны. Там, где два столетия тому назад шло ожесточенное сражение, возвышается величественная каплица, которая высоким шатром строго и торжественно возносится в небо. На стене надпись: *«Памяти героев. 11 июля 1812 года по всей позиции Фатово – Солтановка произошел бой русского войска императора Александра I 7 – го корпуса генерала – лейтенанта Раевского с французскими войсками императора Наполеона I под командованием Даву».*

В жизни есть события, рассказ о которых длится века. Каждое новое поколение должно слышать и знать о них. Благодаря этим знаниям люди становятся сильнее духом, потому что узнают, от какого крепкого корня они ведут свой род. 1812 год – пример для нас, пример того, как противостоять беде, если она случилась, и как выйти из беды со славою и честью.

# НАША ГІСТОРЫЯ



## Іван АНОШКІН
## МАГІЛЁЎШЧЫНА ЛІТАРАТУРНАЯ

*( Працяг. Пачатак у № 1 - 4 )*

І куды б потым не закідваў паэта лёс - наставнічаць у палескую вёску ці ў суровую восень 41-га стаяць насмерць пад Масквой, бароначы яе ад фашыстаў, у замежную паездку ці ў рэдактарскае крэсла сталічнага часопіса, ён заўжды помніў родную вёску, яму заўжды дарагія былі мілыя з дзяцінства палі, рэчка Бесядзь, бярозавыя гаі, магілёўскія краявіды, якія натхнялі яго, занялі так багата месца ў творчасці народнага песняра. У адным са сваіх пасляваенных вершаў Аркадзь Аляксандравіч сказаў:



Аркадзь Куляшоў

*...Край Магілёўскі! З гармат Еўропы*
*Смерць засявала твой шнур жалезам.*
*Ды не змагла - зараслі акопы,*
*А не дарогі травой і лесам...*

Нас хвалююць “Магілёўская хмарка”, “Я хаце абавязаны прапіскаю”, “Станцыя Камунары” і іншыя цудоўныя вершы, якія Аркадзь Аляксандравіч прысвяціў родным мясцінам, сваёй Магілёўшчыне.

Напісаную ж на фронце паэму “Сцяг брыгады”, якая даўно стала хрэстаматыйным творам, Аляксандр Твардоўскі яшчэ тады, у грозныя гады вайны, без перабольшвання назваў народнай паэмай. Міхаіл Ісакоўскі тут жа яе пераклаў на рускую мову, паэма была змешчана ў многіх франтавых газетах, дапамагала нішчыць ворага.

Землякі свята шануюць памяць Аркадзя Куляшова. Яго імем названа сярэдняя школа, дзе вучыўся будучы паэт, вуліца ў г.Касцюковічах. А да 70-годдзя з дня нараджэння песняра ў Саматэвічах адкрыты музей Аркадзя Куляшова.

А што датычыць Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта (былы педінстытут), дык ён носіць імя нашага земляка, народнага пісьменніка Беларусі яшчэ і таму, што гэта кузніца не толькі педагагічных, але і пісьменніцкіх кадраў. Пасля стварэння Саюза пісьменнікаў СССР (1934 г.) менавіта тут быў цэнтр літаратурнага жыцця Магілёўшчыны. Літаратурную суполку тут узначаліў тады выкладчык інстытута Іван Гутараў (родам з вёскі Воўкаўка Мсціслаўскага раёна, выхаванец Леменьскай школы-камуны ў Чэрыкаўскім раёне, дзе, дарэчы, у 1967 годзе пісьменнік, доктар філалагічных навук І.В.Гутараў і быў пахаваны - побач з магілай былога дырэктара школы-камуны Мадэста Мікалаевіча Лепяшынскага).



Іван Гутараў

*(Працяг будзе)*



## Міхась Булавацкі
## ШТО ВЫШЭЙ?

– Што вышэй за жыццё? – Сьмерць.
– Што вышэй за сьмерць? – Каханьне.
– Што вышэй за каханьне? – Свабода.
– Што вышэй за свабоду? – Бог.

# Пра нас пішуць...

*У ліпеньскім выпуску “Літаратурнай Беларусі” надрукавана інфармацыя аб выхадзе ў свет другога і трэцяга нумароў “Дняпроўскай стромы”*




САЮЗ

ДЗВЕ «СТРОМЫ»...

**Магілёўскае абласное аддзяленне ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» выпусціла другі і трэці нумары літаратурна-мастацкага бюлетэня «Дняпроўская строма» (за травень і чэрвень).**

Бюлетэнь расказвае пра ўдзел сяброў аб’яднання ў паэтычных імпрэзах у Магілёве і па-за межамі роднага горада. Трэці нумар «Дняпроўскай стромы», які выйшаў ужо на «вялікафарматных» 4 старонках, прысвечаны паэту Алесю Пісьмянкову, ураджэнцу вёскі Бялынкавічы, што на Магілёўшчыне. У ім змешчаны матэрыялы, падрыхтаваныя паводле вынікаў паездкі магілёўскіх літаратараў на першае абласное свята паэзіі і аўтарскай песні ў гонар паэта «Пісьмянкоў луг».



*Інфармацыю аб выхадзе ў свет бюлетэня “Дняпроўская строма” 27 ліпеня 2012 г. змясціла газета “Веснік Магілёва”*




*У грамадскіх арганізацыях*

# Дняпроўская строма

**Літаратурна-мастацкі і інфармацыйны бюлетэнь пад назвай «Дняпроўская строма» пачало выпускаць Магілёўскае аддзяленне грамадскага аб’яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў». Рэдагуе яго старшыня аддзялення Мікалай Яцкоў.**

Назву выдання ён тлумачыць проста: слова «строма» мае некалькі значэнняў: імклівае цячэнне, круты схіл, шлях уверх. У прынцыпе, падобнае і асэнсоўвае літаратура. Гэта пазіцыя любога сапраўднага літаратара, які імкнецца праўдзіва адлюстраваць рэчаіснасць, падаваць сваёй творчасцю добры прыклад, выхоўваць. «Дняпроўская строма» абяцае адлюстроўваць наш быстрацечны час, не стаяць у старонцы ад культурных падзей, што адбываюцца на Магілёўшчыне, прасвятляць, абуджаць грамадзянскую свядомасць, руплівасць, патрыятызм.

Першыя нумары бюлетэня, што выйшлі ў свет, пацвердзілі задуманае. Тут інфармацыя пра папаўненне Саюза новымі членамі, якім на пасяджэнні аб’яднання ўручылі білеты. Гэтымі шчаслівуцамі сталі Тамара Аўсяннікава, Міхась Булавацкі, Сяргей Украінка. Ёсць артыкулы пра работу, якую праводзяць члены аб’яднання, прадстаўлена Магілёўшчына літаратурная. У рубрыцы «Каб помнілі» апавядаецца пра рана пакінуўшых гэты свет паэтаў Прыдняпроўскага краю Аляксандра Хлімановіча і Алеся Пісьмянкова.

Прыемна, што ў вечарынах, прысвечаных памяці магілёўскіх літаратараў, прымалі ўдзел прадстаўнікі абодвух саюзаў - беларускіх пісьменнікаў і новага Саюза пісьменнікаў Беларусі. І, як адчувалася з пададзенай інфармацыі, яны ніколькі не замінали адзін аднаму. Так, напэўна, і трэба, бо сапраўдная літаратура не ўпісваецца ў нейкія рамкі, яна не ведае межаў, яна - агульнанародная каштоўнасць.

Пакуль выйшлі ў свет 4 нумары «Дняпроўскай стромы». Тыраж кожнага - па 50 экземпляраў. У далейшым, як зазначыў Мікалай Яцкоў, бюлетэнь будзе выходзіць два разы ў месяц.

**Галіна СІДАРЭНКА**

“ДНЯПРОЎСКАЯ СТРОМА”
Літаратурна-мастацкі і інфармацыйны бюлетэнь
Магілёўскага абласнога аддзялення
ГА “Саюз беларускіх пісьменнікаў”.
Распаўсюджваецца на правах
унутранай дакументацыі.

Адказны за выпуск -
Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі,
вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: mikolabryl@gmail.com

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць
за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падрыхтавана да друку 28.07.2012 г.. 21.00.
Наклад 50 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.